Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 28. Вільня, 29 верасьня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб компэтэнцыі самаурадаў.

Апошнія выбары ў самаўрады валасныя, павятовыя і мястовыя Рады, выбары войтаў і бурмістраў паказалі, што беларусы зусім сьвядомы сваіх нацыянальных і клясовых сялянскіх інтарэсаў. За 7 з лішнім гадоў пазналі значэньне самаўрадовае гаспадаркі і недахопы палажэньня, калі кіруюць ёю чужыя нацыянальна і варожыя соцыяльна людзі. Пераважная большасьць выбраных—гэта беларусы, якія да выбараў ішлі, як сьвядомыя нацыянальна людзі. Беларускія выбаршчыкі здалі добра экзамен свае сьвядодомасьці ў большасьці паветаў.

Але што такое самаўрад? Да вайны ў Заходняй Беларусі вёска наша самаўраду ня знала. Царскі ўрад, увёўшы яго ў цэнтральнай Расеі, не дапусьціў пашырэньня самаўрадовых установаў на Беларусь, баючыся аслабленьня расейскіх уплываў.

Самаўрад паходзіць ад слоў радзіць самім, гэта значыць, што само насельніцтва мае дбаць аб найлепшым заспакаеньні гаспадарчых і культурных патрэбаў округу, які прызнаны правам за самаўрадовую адзінку.

Дзяржавай можна кіраваць двома спосабамі. Або ўсе загады, ўсе пастановы і рашэньні выносяцца ў цэнтры, ў сталіцы краю, а мясцовая ўлада толькі выконвае і дакладвае аб патрэбах провінцыі — гэта спосаб цэнтралізацыі.

Другі спосаб будзе той, калі дзяржава выдзяляе з ліку ўсіх справаў, якія могуць узьнікнуць, тыя, якія будуць вырашаны ў цэнтры, ў міністэрстве, ўсе другія перадае на вырашэньне мясцовай уладзе. Гэтая знаходзіцца бліжэй да насельніцтва, лепш азнаёмлена з характарам і патрэбамі яго і лепш можа разрашаць гэныя патрэбы. Гэты спосаб называецца дэцэнтралізацыяй.

Пераважае ён у большасьці дзяржаваў Эўропы і пашыраецца на сьвеце ад другой паловы XIX стагодзьдзя. Але як пры цэнтралізацыі, так і дэцэнтралізацыі ўсе справы вырашаюць урадоўцы, вызначаныя згары міністэрствам.

Пры дапушчэньні ў жыцьці дзяржавы самаўраду, як гэта маем у Польшчы, дзяржава выдзяляе ў парадку уставадаўчым рад справаў, якія перадаюцца самому насельніцтву для кіраваньня імі. Народ выбірае тады сваіх прадстаунікоў і цераз іх вырашае гэныя справы. Урадоўцы, бяз згоды выбраных народам людзей, ня могуць у справах, пераданых самаўраду, выносіць пастановаў і накідаць сваю волю паміма згоды выбарных.

Каб мець магчымасьць кіраваць гаспадаркай самаўрадовага вокругу, установы самаўраду павінны мець на гэта кошты. Здабываюць іх дарогай накладаньня падаткаў на насельніцтва вокругу і здабытымі гэтым спосабам грашыма гаспадараць.

Паводле 65 артыкулу Конституцыі 7.III 1921 г. самаўрадовымі адзінкамі ў Польшчы зьяўляюцца ваяводзтвы, паветы і воласьці.

З гэтага вынікае, што Конституцыя

устанаўляе тры ступені самаўрадовых тэрыторыяльных адзінак—воласьць, павет і ваяводзтва. Кожная адзінка мае свае установы выканаўчыя і уставадаўчыя. Апошнія пастанаўляюць, вырашаюць справы, выдаюць, абмяжованыя тэрыторыяльна граніцамі самаўрадовае адзінкі, законы і распараджэньні, кантралююць выкананьне іх самаўрадовымі выканаўчымі органамі.

У воласьці права пастанаўляць мае Валасная Рада, выконвае пастановы войт і лаўнікі. У местах права пастанаўляць належыць да Мястовае Рады, а Магістрат на чале з бурмістрам зьяўляецца органам выканаўчым.

Другая ступень самаўрадовых тэрыторыяльных адзінак нават дае права пастанаўляць, выдаваць абавязуючыя распараджэньні—гэта Павятовы Соймік, выканаўчыя функцыі належаць да Павятовага Аддзелу, які зьяўляецца прэзыдыумам Сойміку.

Урэшце ў ваяводзтве павінна быць Ваяводзкая Рада, як орган устанаўляючы і Ваяводзкі Аддзел, як орган выканаўчы.

У нас дагэтуль ваяводзкіх самаўрадаў яшчэ няма.

Констытуцыя аднак прадбачыць самаўрадовыя ваяводзкія установы, якія маюць быць найвышэйшымі аддзеламі самаўраду з правам нагляду над дзейнасьцю аддзелаў ніжэйшых — паветаў.

Павет, як самаўрадовая адзінка, мае публічна-праўны характар. Яго выканаўчая установа—Павятовы Аддзел у граніцах свае компэтэнцыі мае такое права, як установы ўрадовыя.

Соймік можа выносіць пастановы, якія будуць абавязковымі для насельніцтва ўсяго павету, калі ня выйдуць па-за межы свае компэтэнцыі.

Кажа аб гэтым арт. 67 констытуцыі: „Права вырашэньня пытаньняў, што ўваходзяць у межы дзейнасьці самаўраду, належыць выбарным радам. Выканаўчыя функцыі ваяводзкага і павятовага самаўраду належаць органам, утвораным на прынцыпе злучэньня колегіяў, выбраных прадстаўнічымі органамі, з прадстаўнікамі дзяржаўных адміністрацыйных уладаў і пад іхнім старшынством.

Дзеля таго, што самаўрад у галінах, яму адданых, прыналежных да ягонае компэтэнцыі, замяняе ўрадовы адміністрацыйны апарат, дзяржава заінтэрасована ў тым, каб выпаўненьне гэных заданьняў было якнайлепшае, згоднае з уставамі і агульнай палітыкай гаспадарства. Дзеля гэтага на чале выканаўчых самаўрадовых установаў мусяць стаяць урадоўцы: на чале павятовага аддзелу павятовы стараста, а на чале ваяводзкага аддзелу — Ваявода. Яны аднак самі, бяз згоды сяброў гэных выканаўчых органаў, ня могуць праяўляць дзейнасьці, бо тады выступалі-б, як урадоўцы, і такая дзейнасьць ламала-б усе падставы самаўраду. Будучы старшынямі выканаўчых самаўрадовых органаў у павеце і ваяводзтве, урадоўцы гэныя не зьяўляюцца ўрадовымі наглядчыкамі над дзейнасьцю самаўраду, яны ўваходзяць у самаўрад, як прадстаўнікі адміністрацыі, праўда, але з голасам, роўным голасу сяброў выбарных.

Нагляд над дзейнасьцю самаўраду гаспадарства вядзе цераз самаўрадовыя аддзелы вышэйшае ступені, ў некаторых выпадках гэны нагляд можа быць пераданы адміністрацыйным судом — (арт. 70 констытуцыі).

Да дзейнасьці самаўраду належаць тыя галіны мясцовага жыцьця, якія найлепш могуць быць кірованы імі і якія пераданы самаўраду уставамі дзяржавы. Самаўрад заведвае дарогамі, справамі апекі над сіротамі, інвалідамі, будуе школы, дбае аб падняцьці гаспадарчай культуры сярод дробнай уласнасьці і г. д.

На ўсё гэта здабываюцца кошты з падаткаў, якія накладаюцца на насельніцтва самаўрадовае адзінкі, павету ці воласьці.

Законы разьмяжоўваюць даходныя крыніцы гаспадарства і самаўраду,—кажа 69 арт. констытуцыі. Інакш лішне вялікімі падаткамі на патрэбы самаўраду маглі-б быць зруйнованы насельнікі. Закон указвае граніцы, да якіх дазваляецца абкладваць насельніцтва на патрэбы самаўраду.

Здабытымі грашыма адмініструе самаўрадовы выканаўчы орган, згодна з законамі і пастановамі Павятовага Сойміку, Валасной Рады ці Рады Мястовай.

Так прадстаўляецца самаўрад тэрыторыяльны, прадбачаны 65 арт. констытуцыі. Апрача гэтага, паводле арт. 68, павінен паўстаць самаўрад гаспадарчы дзеля пасобных галінаў гаспадарчага жыцьця з Галоўнай Гаспадарчай Палатай Рэспублікі на чале. І ўрэшце арт. 110 і 109 прадбачыць самаўрад нацыянальных меншасьцяў у межах тэрыторыяльнага самаўраду, а арт. 111 самаўрад рэлігійны.

Самаўрад мае вялізарнае значэньне.

## Беларускія пачатковыя школы.

Здаровае вырашэньне школьнага пытаньня, згодна з патрэбамі і жаданьнямі беларускага насельніцтва, зьяўляецца неабходнасьцю для спакойнага рэгуляваньня ўзаемаадносін паміж беларускім насельніцтвам і польскай дзяржавай. Ад жаданьня школы ў роднай мове беларусы ніколі не адступяцца. Наадварот, жаданьне такое штогод будзе ўзмагацца. Так што, як хочам, школьнае пытаньне трэба разьвязаць. Людзі, якія разумеюць справу і не заражаны эндэцкім шовінізмам, ведаюць, што адным з першых варункаў супакоеньня завостраных антагонізмаў ёсьць якраз прызнаньне школы беларусам. На гэтым месцы мусім з прыкрасьцяй ад'значыць, што ў адносінах да украінцаў урад праяўляе болей толеранцыі ў школьным пытаньні.

Усё-ж такі мусім ад'значыць, што з году на год школьнае пытаньне вырашаецца лепей. У гэтым годзе адчынены 14 беларускіх і 20 утраквістычных (мешаных польска-беларускіх) школаў. Трэба ад'значыць, што утраквістычныя школы, як паказала жыцьцё, не апраўдалі пакладаных на іх надзеяў. Утраквістычная школа, ў якой выкладае польскі настаўнік, страціць характар школы мешанай, зробіцца чыста польскай. А дзеля таго, што беларускіх настаўнікаў, пакуль што, недахоп, дык у мешаных школах пераважна вучаць палякі. Дзеля гэтага тып утраквістычнай школы трэба закідаць, а ўводзіць чыста беларускія школы. Падаём сьпісак беларускіх школаў у Віленшчыне:

1. в. Гулі, 1 кл., Жасьнянская воласьць, Пастаўскі павет.
2. Старыя-Гакі 4 кл., Жасьнянская воласьць, Пастаўскі павет.
3. Малажаны, 2 кл., Докшыцкая воласьць, Дзісьненьскі павет.
4. Халопы, 2 кл., Вялейская воласьць, Вялейскі павет.
5. Цынцэвічы, 2 кл., Вялейская воласьць, Вялейскі павет.
6. Варонічы, 1 кл., Вялейская воласьць, Вялейскі павет.
7. Журыхі, 1 кл., Вялейская воласьць, Вялейскі павет.
8. Тураўшчыны, 1 кл., Вялейская воласьць, Вялейскі павет.
9. Каралёўцы, 1 кл., Войстамская воласьць, Вялейскі павет.
10. Клоўсы, 2 кл., Касьценевіцкая воласьць, Вялейскі павет.
12. Іжа, 2 кл., Іжанская воласьць, Вялейскі павет.
13. Слабода, 2 кл., Іжанская воласьць, Вялейскі павет.
14. Талуць, 2 кл., Іжанская воласьць, Вялейскі павет.

Утраквістычныя школы (польска-беларускія):

1. Сьнегі, 3 кл., Ёдзкая воласьць, Браслаўскі павет.
2. Глісьцёнкі, 2 кл., Ёдзкая воласьць, Браслаўскі павет.
3. Казакі, 2 кл., Н. Пагост, Брасл, павет.
4. Шаркоўшчына, 5 кл., Шаркоўская воласьць, Дзісьненьскі павет.
5. Баяры, 2 кл., Пліская воласьць, Дзісьненскі павет.
6. Руднікі, 2 кл., Празароцкая воласьць, Дзісьненскі павет.
7. Жабінка, 2 кл., Глыбоцкая вол., Дзісьненскі павет.
8. Баяршчына (В.-Сяло), Гэрманавіцкая воласьць, Дзісьненскі павет.

---

## З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА.

(Гл. № 27 „Бел. Д.").

### Першыя ўражаньні.

Пасьля провінцыяльнага Менску з яго дапатопнаю конкаю і брудам на кожным кроку, Вільня адразу зрабіла на мяне вельмі прыемнае ўражаньне.

Пакінуўшы свой „dowód osobisty" ў гасьцініцы „Італія" і зрабіўшы перад нумаровым міну, што вельмі заняты рознымі справамі, пайшоў я аглядаць места. Я меў шмат часу, бо сустрэча з прадстаўнікам „падпольнае" арганізацыі была назначана на вечар.

Шэсьць гадзін хадзіў я па розных вуліцах, разглядаючыся навокал. Забраўся на Замковую Гару.

Нейкаю зачараванаю князёўнаю выглядае Вільня з гэтае гістарычнае гары. Катэдральны Пляц, простая, як струна, вуліца Міцкевіча, касьцёлы, касьцёлы і касьцёлы з іх стыльнаю архітэктураю, дамы, падобныя да старажытных палацаў, цудоўныя ваколіцы Антокалю і Закрэт, — усё гэта надаець Вільні таёмны, містычны характар.

Незалежнасьць і магутнасьць духу былых валадароў краю, як-бы носіцца над Вільняю, — і кліча да новага творчага чыну, да Рэнэсансу...

— Не, гэта ня Менск, далёка Менску да Вільні, — думаў я, успамінаючы бясьсільныя, нясмачныя контуры менскіх савецкіх вуліц...

На Вялікай вуліцы па тратуарах цячэ хваля людзей. Жанчыны, убраныя паэўропэйску, вайсковыя, студэнты ў белых шапачках, вучні і гімназісткі, цывільныя ў каўнерах і капялюшох — усе яны непадобныя былі да тых людзей, якіх я яшчэ ўчора пакінуў. У параўнаньні з Менскам, тут усё было іначай.

Я адчуваў сябе адзінокім, чужым.

Нецярпліва чакаў я тае мінуты, калі павінен быў спаткацца з тымі, з кім я прыехаў у Польшчу.

Пунктуальна а 8-й гадзіне я пабачыў іх на ўмоўленым месцы, і мы пайшлі разам у кірунку Вялікае вуліцы, размаўляючы аб пагодзе і розных пустых справах.

Мужчына, якога я спаткаў, быў сябар Ц. К. К. П. П. Да прыезду на падпольную працу, ён быў нейкі час у Менску, потым у Петраградзе сябрам Чэка. Адным словам гэта была „шышка", ад якое шмат залежала. У беларускіх справах яму належала першае і апошняе слова. Што скажа, значыць „сьвята". Яго

9. Савіцкае М., Шаркоўская вол., Дзісьненскі павет.
10. Вялейка, 7 кл., Вялейская валасьць, Вялейскі павет.
11. Рэчкі, 2 кл., Куранецкая валасьць, Вялейскі павет.
12. Хаценчыцы, 4 кл., Хаценчыцкая вол., Вялейскі павет.
13. Осава, 2 кл., Крывіцкая валасьць, Вялейскі павет.
14. Залеўскія, 1 кл., Ільская валасьць, Вялейскі павет.
15. Залесьсе, 4 кл., Беніцкая валасьць, Маладэчанскі павет.
16 Назілава, 2 кл., Лебедзеўская валасьць, Маладэчанскі павет.
17. Маладэчна, 7 кл., Маладэчанская вол., Маладэчанскі павет.
18. Маркава, 2 кл., Лебедзеўская валасьць, Маладэчанскі павет.
19. Цюрлі, 1 кл., Маладэчанская валасьць, Маладэчанскі павет.
20. Сычавічы, 1 кл., Радашкаўская валасьць, Маладэчанскі павет.

## Першая выстаўка беларуска-украінскай прэсы у Варшаве.

У мінулую нядзелю ў памешканьні Галоўнае Школы Варшаўскага Унівэрсытэту адбылося адчыненьне першай выстаўкі беларускай і украінскай прэсы. Выстаўку з'арганізавала Славянская Ліга і Інстытут Досьледаў Нацыянальных справаў. Да сабраных у вялікім ліку асобаў з навуковага і палітычнага сьвету прамовіў старшыня камітэту выстаўкі інж. В. Карпінскі, які, вітаючы прысутных, сьцьвярдзіў, што мэтай выстаўкі ёсьць азнаямленьне польскага грамадзянства з беларускай і украінскай прэсай, як найбольш характарнай зьявай нацыянальнага жыцьця двох братніх народаў, якія жывуць у межах супольнай дзяржавы. Выстаўку адчыніў ад імя міністра В. Р. і А. П. пан І. Ендржэевіч, сьцьвярджаючы, што ўрад вітае з задаваленьнем арганізацыю выстаўкі, якая бяз сумліву прычыніцца да бліжэйшага ўзаемнага пазнаньня грамадзянстваў Рэчыпаспалітай. Пасьля сябры камітэту выстаўкі: п. інж. Карпінскі, інж. Земкевіч, праф. Аўссенко, праф. Лукашэвіч, Ст. Папроцкі і М. Сьвехоўскі абводзілі прысутных па выстаўцы.

Аб выстаўцы вось як адклікаецца „Robotnik“:

„Варта гэту выстаўку адведаць, варта таксама заставіцца над яе духовым і соцыялягічным зьместам. Гэта ня ёсьць а ні Польшча, а ні Расея, гэта ёсьць проста Беларусь і Украіна. Ўсьведаміць сабе гэту праўду, усмактаць яе ў сябе, гэта значыць, навучыцца шмат, значыць здабыць палітычную сьведамасьць у галіне вельмі важнае проблемы Ўсходу Эўропы. Блутаюцца ў нас у гэтай справе нязьлічаныя забабоны, жывёныя, шыраныя і падтрымліваныя ўсёмагучымі да нядаўна польскімі landlordami на Беларусі і цукроўнікамі на Украіне. Трэба ад гэтых забабонаў у інтарэсе польскае дзяржавы вылячыцца. Выстаўка, сягоньня з'арганізованая, зьяўляецца адным з этапаў лячэньня нацыяналістычнага перarосту ў нас“.

Цешыць нас рэвэляцыйны водклік органу польскіх соцыялістых. Кажам — „рэвэляцыйны“, бо яшчэ ня так даўно польскія соцыялістыя выдавалі на Палесьсі „Красное Знамя“, на расейскай мове, прызначанае для беларускіх і украінскіх сялянскіх масаў. Тады польскія соцыялістыя не ўяўлялі той яснай праўды, аб якой цяпер пішуць, што гэта „ня Польшча і не Расея, гэта ёсьць Беларусь і Украіна“. Як бачым, жыцьцё зьяўляецца добрай школай. „Лепш позна чым ніколі“, — кажа прыказка. Няма сяньня, ані „Краснаго Знамени“ ані „тав.“ Махая, а беларусы асталіся беларусамі.

---

спадарожніца была маладая камсамолка невядомае нацыянальнасьці — тыповая бальшавіцкая пампадурша.

— На Вялікай шмат шпікоў, пойдзем да рэстарану,—прагаварыў ён ціха. Мы зайшлі да Нішкоўскага. Выпілі гарэлкі, лікеру, кавы, закусілі добра, — заплацілі. Падчас усяго гэтага я даведаўся, што маё „начальства“ выяжджаець у Варшаву, што за мною заўтра заедзе „тэхнік“ і завязе мяне на новую кватэру, што хутка будзе паседжаньне Ц. К. К. П. З. Б., на якім я павінен быць, што будуць разглядацца важныя беларускія справы і „ён“ прыедзе на гэтае паседжаньне.

Мы выйшлі з рэстарану і разьвіталіся.

— У Польшчы паліцыя такая дурная, што можна пяць гадоў працаваць, але ўсё-ж такі трэба быць асьцярожным, — радзіў ён мне,

На другі дзень сталася так, як ён сказаў. Нейкі бойкі жыдок зьявіўся ў назначаны час і завёз мяне на „кватэру“. Я быў у падпольлі.

---

Маім моральным абавязкам было бесстаронна паінфармаваць тых беларусаў, якіх я спаткаю ў падпольлі, аб Усходзе. Гэта я адразу зрабіў. У зьвязку з пашырэньнем тэрыторыі Б.С.С.Р. я заўважыў пэўны сэнтымэнт сярод навасьпечаных беларускіх камуністых, нейкае засьляпленьне Усходам. Ніхто з іх ня меў а ніякага паняцьця аб тым, для чаго зроблена гэтае пашырэньне і як гэта зроблена.

Як дзеці, яны цешыліся з таго, што ў склад Б.С.С.Р. уваходзіць ужо 14 паветаў, заместа шасьцёх, не заглядаючы глыбей у сутнасьць справы.

Асьцярожна, наскольні пазваляла мне маё палажэньне, я зазначыў ім, *што захапляцца, пакуль што, няма чым,* што Менск далёка яшчэ не беларускі, што рэшта Б.С.С.Р. уся ў руках ворагаў беларушчыны. Адным словам, я быў зусім шчыры і пагляды мае тады і цяпер што да Менску не зьмяніліся.

— Што-ж рабіць нам у Польшчы? — пыталіся яны.

На гэта я даў ім адказ, што найлепей і найкарысьней *было-б дабівацца аўтаноміі і выкарыстаць усе легальныя магчымасьці працы.*

У адносінах да розных палітычных беларускіх групаў я радзіў трымацца тактыкі адзінага нацыянальнага фронту і ні з кім ня зрываць.

Мае думкі вельмі спадабаліся беларусам-камуністым, якія ўваходзілі ў новаўтвораны Ц. К. К. П. З. Б.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Чаго трэба вымагаць ад добрага плуга.

Нялёгка бывае селяніну сабрацца купіць, а нават і выбраць добрую сячкарню, ці малатарню. Але ня менш важнаю прыладаю ў сялянскай гаспадарцы ёсьць і плуг, які набыць і купіць гэтак сама ня так ужо лёгка і проста. Бо вядомая рэч, што ад добрага плуга вымагаецца, каб ён быў моцны, а затым добра і чыста адрэзваў скібу, добра яе адварочваў і разам крышыў або, калі трэба, і слаў скібу. Але трэба ведаць, што такога ідэальнага плуга, каб добра працаваў, на ўсялякім грунце, пакуль што, няма. Усе бесьперадковыя, або простыя плугі, дзеляцца на гэтак званыя „рухадлавыя“ або з цыліндрычнымі паліцамі, і на „вінтавыя“ або культурныя плугі. Паміж іх ёсьць яшчэ тып плугоў мешаных, якія і найлепш надаюцца да працы ў нашых варунках. Паводле спосабу вырабу, плугі дзеляцца на звычайныя простыя плугі, якія выробляюцца мясцовымі кавалямі з жалеза, часам нават некаторыя часьці з дзерава і маюць гэтыя плугі найбольш трохкантовы сашнік, вельмі часта дзеравяныя ручкі і носяць назоў: „амэрыканскія“. Плугі гэныя маюць цыліндрычныя паліцы (адвалы) і ўжываюцца найбольш на лёгкіх пад'золах і супяскох. Калі араць гэтакім плугам, то зямля падымаецца па крутапастаўленай паліцы і пласт яе пры рабоце вельмі ломіцца і крышыцца. А пры орцы мала яшчэ падрэзаць баразну зьнізу і збоку і скрышыць пласт, а трэба, каб плуг добра мог і перавярнуць скібу. Гэную работу выпаўняе заўсёды паліца. Вось дзеля чаго паліца — ёсьць самаю важнаю часьцю плуга і ад яе ўстройства залежыць уся работа плуга. Калі паліца плуга вельмі крута пастаўлена і кароткая, без вінтавога перагібу, то плуг будзе моцна крышыць скібу і ён цяжэй ідзе за канём. Пры орцы паліны гэтакім плугам, паліца яго акажацца няпрыгоднаю: плуг будзе рваць і раскідаць дзірван бяз ніякага парадку. Затое на мягкай зямлі плуг з гэтакай паліцаю будзе вельмі добра выпаўняць работу: пакрышыць пласт (скібу) і, роўна перавярнуўшы, зложыць зямлю грэбянямі. Другою важнаю часьцінаю плуга будзе сашнік або лямеш, заданьне якога адцінаць скібу зьнізу і падымаць яе трохі ўгару. Сашнік абавязкова, як і паліца, павінен быць зроблены заўсёды з сталі. У правілова прыстаўленым сашніку, левы бок яго павінен ляжаць або быць працягам левае плашчыні ўстройства плуга. Калі левая лінія сашніка будзе скіравана ўправа, то плуг будзе выкручвацца перадам управа, іначай кажучы, плуг будзе выходзіць з баразны, а ізноў — калі лінія левага боку сашніка прыкметна выдаецца ўлева, то і плуг будзе занадта забіраць улева або ў загон. Пры кожнай праверцы новага плуга, або пасьля папраўкі старога, плуг трэба паставіць на зусім гладкую і роўную дошку і глядзець, як ён упіраецца сашнікам і падошваю. Добра зроблены плуг павінен стаяць на ўсім пярэднім краі сашніка і на заднім канцы падошвы або пяткі плуга. Трэба кожнаму добра памятаць, што калі плуг апіраецца ўсёю падошваю амаль да самага носіка сашніка, то гэтакі плуг ніколі ня будзе правілова араць, а ў цьвёрдай зямлі нават ня пойдзе ў грунт. Вось дзеля чаго трэба добра пільнаваць спраўнасьці сашніка ня толькі дзеля таго, каб ён добра падрэзваў, але і дзеля стойкасьці і ходу самога плуга.

---

Мы ўмовіліся, што будзем выступаць і падтрымліваць адзін аднаго на тым паседжаньні, якое павінна было быць. Доўга чакаць ня прышлося. У сярэдзіне сакавіка, добра не памятаю даты, але добра помню, што гэта было ў пятніцу, нарэшце, гэты Цэнтральны Камітэт сабраўся.

### „Ц. К. К. П. З. Б.“

А гадзіне сёмай-восьмай увечары мы пайшлі шукаць тае кватэры, каля якое нас павінен быў чакаць „арганізатар“ гэтага паседжаньня.

Доўга шукалі, бо нумар дому быў пададзены ня той. Нарэшце, неяк выпадкова гэтага „арганізатара“ знайшлі. Гэта быў маленькі, тоўсьценькі жыдок буржуазнага тыпу. Разам з ім і з іншымі „цэкістамі“, якія падыйшлі, мы цэлаю кучаю ўваходзім у кватэру нейкага беднага жыда. На стале гарэлі шабасныя сьвечкі. Уся сям'я вячэрала.

Пабачыўшы нас, старая жыдоўка ўся пабялела ад страху:

— Ой, гэвалт! — ускрыкнула яна.

Аказалася, што наш „арганізатар“ завёў нас у другую кватэру, зусім ня тую і жыдоўка прыняла нас напэўна за бандытаў альбо зладзеяў. Доўга не чакаючы, мы пачалі ўцякаць.

— Ерунда гэта, а не Ц. К., — думаў я. — Нават паседжаньня арганізаваць ня могуць, як трэба.

Вылецеўшы на вуліцу, мы лаяліся. Пайшлі шукаць праўдзівую кватэру і недзе на тым-жа двары знайшлі.

Апошнім прыйшоў той, хто камандаваў і пастанаўляў, той самы чалавек, з якім я быў у Нішкоўскага. Ён адчыніў паседжаньне і пачалася гутарка. Усе гаварылі парасейску, як і заўсёды. Успамінаю гэтае першае паседжаньне дзеля таго, што на ім апрача іншых дробных справаў, чыста арганізацыйных, была пастаўлена на парадак дня і справа расколу ў „Беларускім Пасольскім Клюбе“, які трэба было зрабіць, згодна інструкцыі „зьверху“.

Само сабою, што аніводнага пасла на гэтым паседжаньні ня было, ды і не магло быць. Іх „калолі“ бяз іх ведама і дазволу. Наагул, што да беларускіх паслоў, то з імі ніхто ў гэтым „Ц. К.“ паважна ня лічыўся. Над імі сьмяяліся, іх ня любілі, імі пагарджалі. Гэта мяне злавала. Успамінаю ўсё гэта дзеля таго,, што сягоньня, калі беларускае грамадзкае жыцьцё дэзарганізована і ўсе лаюцца паміж сабою,—

Полаз або падошва надае пэўнасьць ходу плуга і стойкасьць яго. Чым палазок шырэйшы, тым пэўнейшы апор даецца плугу, але разам з тым зьвялічвае і цёрце аб дно баразны, дзеля чаго лепш рабіць палазкі вузейшыя і даўжэйшыя. Спод канца палазка павінен ляжаць у адной плашчыні з лязом сашніка на дне баразны і толькі кончыкам палазка датыкацца бакавое яе сьценкі.

Дышаль або градзель плуга служыць дзеля зьвязаньня ўсіх часьцей плуга і як пункт прычапленьня пацяговай сілы. Калі плуг прызначаны для шырокага пласта і для працы на тугіх (моцных) грунтох, дык дышаль робіцца даўжэйшы, надаецца яму асаблівы выгіб, і ён павінен быць сталёвы.

У тых плугох, якімі прыорваюць гной, высокую пожню, або лубін, дышаль — карацейшы і часта выгібаецца ўверх.

Ручкі плуга служаць для кіраваньня плугам і перанашэньня яго на заваротах. Вышыня ручак павінна быць адпаведная росту чалавека-ратая, каб зручней было працаваць і не ўтрудняць непатрэбна ход плуга. Залежна ад устройства і велічыні плуга і ратая павінна быць пастаўлена вышыня ручак, ў кожным выпадку ня вышэй як 72-86 сант. ад палазка.

Цэлы корпус плуга вяжа ўсе часьці яго, як: паліцу, сашнік, палазок і дышаль — і палявая плашчыня (левая), якая ёсьць з боку сашніка і паліцы, а ўраз з тым і канца палазка, павінна быць просталінейнаю да сподняе плашчыні ўсяго плуга. У кожным добрым плузе пры нацяганьні пастронкаў — пункт прычэпкі іх да хамута, канец дышля і сярэдзіна апору скібы на паліцы павінна быць на аднэй простай лініі, бо іначай плуг ня будзе добра трымацца ў зямлі, а будзе выскакваць. Дышаль павінен быць добра ўрэгулёваны, бо калі будзе павернуты налева, значыць у поле, то плуг будзе браць, што-раз большую скібу, і наадварот — калі павернуты ўправа, то і плуг будзе браць меншую баразну.

Вось-жа аднымі з найлепшых плугоў, якія маюць тып паліцаў мешаных, вырабу фабрычнага, у якіх усе часьці добра заўсёды вымераны, урэгулёваны, і робяцца—паліцы, сашнікі, палазкі і навет дышлі з сталі — гэта будуць арыгінальныя фабрычныя плугі маркі „Sucheni". Затым вельмі моцныя і добрыя плугі будуць, ня лічачы Саккаўскіх—гэта плугі „Венцкага", маркі NAP. Часьці гэтых плугоў выбляюцца з сталі і яны вельмі спраўныя ў працы.

А ўсіх плугоў, у якіх часьці робяцца з дзерава, або з чугуна, ніколі няварта купляць, як няварта купляць самадзельных плугоў з жалезнымі сашнікамі і паліцамі, бо яны хутка зарываюцца і не заўсёды добра зроблены. Калі плуг няправільна зроблены, ён заўсёды цяжэйшы для каня. *Я. Х.*

## Як пазнаць добрую карову.

Ведама, што некалькі раз выгадней заплаціць за карову ў два-тры разы даражэй, але толькі, каб яна давала даволі малака. Наша простая карова дае прыблізна 1000 — 1500 літраў малака ў год, у той час, як культурная карова можа даваць 6—8 тысяч літраў малака ў год і болей, а ўтрыманьне і той і другой каровы абходзіцца аднолькава, і тыя 200—400 злотых, што былі заплачаны за гэную карову даражэй, зьвернуцца гаспадару скарэй, як за год. Вельмі важна ведаць матку і быка, ад якіх карова нарадзілася, але скантраляваць гэта не заўсёды магчыма, асабліва тады, калі гаспадару прыходзіцца купляць карову на кірмашы ад незнаёмага чалавека. Трэба, каб карова перш за ўсё мела пагляд вясёлы,

---

вельмі цікава ўспомніць, *хто фактычна вінават* у гэтай дэмаралізацыі і аслабленьні беларусаў і іх руху.

Як я трымаў сябе на гэтым першым паседжаньні?

Пры агульным маўчаньні, я выступіў і сказаў, *што я процiў расколу* ў Беларускім Пасольскім Клюбе.

— Чаму? — спытаўся варшаўскі камісар.

— А таму, — адказаў я, — што няма ніякіх паважных прычын для расколу.

— Усе яны выбраны сялянствам, сацыяльная дыфэрэнцыяцыя беларусаў слабая, расколам аслабіцца нацыянальны рух, які мы павінны падтрымліваць. Я лічу, — казаў я, — што трэба трымацца тактыкі адзінага нацыянальнага фронту.

Процiў мяне падняўся той самы варшаўскі камісар і пачаў даказваць, што я мыляюся, што я не бальшавік і г. д. Выступілі яшчэ са тры жыдкі.

Я агрызаўся, падаваў рэплікі. Нарэшце, галасаваньне. Я адзін дэмонстрацыйна падняў руку процiў расколу, нават навасьпечаныя беларусы мяне не падтрымалі. З цяжкім пачуцьцём выходзіў я з гэтага першага паседжаньня.

— І тут, як там у Менску, — думаў я, — кругом ворагі і правакацыя беларускага рэвалюцыйнага руху.

Для мяне было ясна, што раскол у Клюбе павядзе за сабою аналёгічныя зьявы і ў грамадзянстве. Пачнецца барацьба паміж беларусамі. А гэта было якраз на руку тым, хто адвеку дзяліў нас і панаваў.

Гэта ня значыць, што я зусім згаджаўся з працаю Беларускага Пасольскага Клюбу. Я бачыў яго нявытрыманасьць, яго хістаньне, адсутнасьць пэўнае лініі ў працы. Усё гэта так, але мне адначасна з гэтым прыходзіла ў галаву думка, што такое забавы, як раскол, беларусы сягоньня пазволіць сабе ня могуць, што лепей хай мыляюцца, але ідуць разам і рэпрэзэнтуюць адзіны народ.

Наперакор пастанове аб расколе Клюбу, я рашыў усё магчымае зрабіць, каб да гэтага расколу не дапусьціць.

Пачалася барацьба і інтрыгі, якія ў Клюбе цягнуліся больш году і ўрэшце прывялі да стварэньня „Грамады".

(Працяг будзе).

Вільня. *М. Гурын.*

вясёлыя вочы, была добра зложана і ня была падобна да быка. Ў той час, як у быка бывае шырэйшы перад (тоўстая шыя, грудзі), карова мусіць мець больш разьвінены зад. Скура мусіць быць тонкая і пажадана, каб на шыі былі частыя складкі.

Шэрсьць каб была бліщчастая, хрыбёт лепш даўгі, роўны, скабы шырокія і далёка ад сябе адстаўленыя, каб паміж двума рэбрамі можна было ўлажыць тры пальцы. Хвост таксама найлепшы—даўгі. Жывот найлепш, каб быў круглы, так як бочка, але не адвіслы. Зад, трэба, каб ня быў завостраны, а, наадварот, шырокі, тады ёсьць больш месца для вымя. Не заўсёды ўсё-ж такі карова з вялікім вымем дае шмат малака. Трэба, каб вымя ня было клустае, тугое, як гума, каб пасьля даеньня зьмяншалася і тварыліся складкі. Цыцкі могуць быць ня вельмі тоўстыя і ня вельмі тонкія. У некаторых кароў бываюць добра відны, апрача чатырох цыцак, яшчэ і дзьве неразьвіненыя, гэта так сама вельмі пажадана. Трэба, каб і з-заду вымя было добра відаць, гэта так званы „малочны люстэрак" і чым ён большы ў шырыню і даўжыню, тым лепш. Пажадана, каб жылы, якія ідуць на вымя, былі тоўстыя, набеглыя і ў тым месцы, дзе яны з боку пераходзяць з-пад скуры ў жывот, ёсьць дзьве „малочныя ямкі", якія можна абмацаць пальцам і чым яны большыя, тым лепш.

Клустая карова мала калі дае шмат малака; такую карову найлепш адкарміць і прадаць на мяса. Трэба прыглядацца, каб карова ня была вельмі старою. Найбольш малака дае карова пасьля 4—5-га цяляці. Сколькі карова мае гадоў, найлепш пазнаць па кругох на рагу, якія творацца цераз тое, што калі карова цельная, дык тады больш корму, што спажывае, аддае свайму цяляці, а менш спажывае для сябе, дык праз гэта і рогі тады растуць слабей, і творацца кругі. Чым выразьнейшыя гэтыя кругі, тым лепш. Дзеля таго, што карова ў першы раз пушчаецца да быка тады, калі мае паўтара-два гады, то можна і вырахаваць прыблізна сколькі яна мае гадоў тым, што палічым на рагу кругі і яшчэ прырахуем два. Пазнаваць па зубах шмат цяжэй, дзеля таго, што зубы ў каровы сьціраюцца ня так правільна, як, напрыклад, у каня.

Кожная з паасобных ад'знакаў добрае каровы яшчэ не азначае, што гэта карова будзе даваць даволі малака, але калі ёсьць адначасна многа ад'знакаў, як напрыклад, добрае вымя, доўгі хрыбёт і хвост, тонкая, з складкамі на шыі, скура, выразныя кругі на рагох, набеглыя тоўстыя жылы і вялікія малочныя ямкі, шырокае і доўгае малочнае люстэрка, недаразьвітая трэйцяя пара цыцак, ужо тады ёсьць пэўнасьць, што карова гэта будзе добрая. Адначасна трэба прыглядацца і да масьці, напрыклад, няварта купляць каровы зусім белай масьці, бо такая карова звычайна дае мала малака, але за тое часта добра адкормліваецца на мяса. У чародны раз мы пагаворым аб тым, як трэба скаціну даглядаць.

*П.*

## Сіласаваньне.

Часта ў гаспадарцы прападае многа рознага корму цераз тое, што гаспадар ня ведае, як яго можна скарыстаць. Напрыклад, картафлянік, бурачнік, зьмерзлая бульба выкідаюцца на гной, у той час, як яны могуць зімою замяніць скаціне пашу. Пры недахваце корму, часта жывёла прабіваецца ўсю зіму на адной саломе, ня мае з яе ніякае карысьці, а вясною часта прыходзіцца скаціну проста валачы на пашу, бо яна ледзьве цягне ногі. Найлепшы спосаб, якім можна скарыстаць корм, які звычайна выкідаецца і зрабіць з яго добрую выдатную патраву гэта — сіласа-

## Голка*).

*Расказ.*

Прыехаўшы ў Адамполь, Гадаўскі на пытаньні гаспадара, чаму ня прыехаў Харашэўскі, адказаў з вялікай павагай, што з ім здарылася няшчасьце: „праглынуў голку". — „Голку праглынуў?! не, хіба жартуеце?!" — дзіваваў Тыднёнак.

— Так, так, прышываў гузік, трымаў голку ў зубох і глытануў. Цяпер да дохтара паехаў, — тлумачыў з паважнай мінай Гадаўскі.

Людзі, слухаючы Гадаўскага, дзівавалі, охалі і ахалі, Антося плакала, выціраючы хустачкай свае прыгожыя васільковыя вочы, калі разам у гэны ўстрывожаны апавяданьнем Гадаўскага гурток, як віхор, уварваўся малады Пазуркевіч, на ўсю ваколіцу вядомы скакун і дырыжэр танцамі, і клікнуў на ўсё горла:

— Панічы просяць паненак да першага вальцу!

А за ім з гасьціннага пакою нясьліся гукі аркестры, іграўшай чароўны мотыў.

І ўся грамада слухачоў разам схамянулася, забыўшыся адразу аб бедным, нешчасьлівым, праглынуўшым голку, пану Харашэўскім. Антося нават перастала плакаць і, усьміхнуўшыся да маладога Пазуркевіча, які кланяўся і прасіў яе да танцу, падала яму руку, і як птушка, паляцела, шургаючы нагамі ў тахту музыкі разам з ўсёй грамадой насустрэч чароўнай мэлёдыі вальцу.

Так і забыліся аб пану Харашэўскім... апрача Гадаўскага які, ведаючы, чым скончыцца паездка пана Харашэўскага ў Навагрудак, чакаў з вялікай цікаўнасьцю яго прыезду ў Адамполь.

Што пан Харашэўскі захоча яму ад'імсьціць і то зараз-жа, і прыедзе ў Адамполь, Гадаўскі гэта ведаў таксама і рыхтаваўся да гэнага спатканьня. І сапраўды: а гадзіне другой ўночы, калі, пасьля выпітай за вячэрай гарэлкі, скокі былі ў поўным ходзе: пішчала скрыпка, сьвістаў клярнэт, гудзела басэтля і з падлогі ляцелі трэскі і падымаліся клубы пылу, пад моцным тупатам ног скакуноў — раптам уціснулася ў дзьверы фігура пана Харашэўскага.

— Ах, пане Харашэўскі! ну, што, як голка?— закідалі яго з усіх бакоў пытаньнямі.

Пан Харашэўскі думаў, што Гадаўскі расказаў аб гэтай голцы ўсю праўду, і неяк зьдзівіўся, бачачы з поглядаў прысутных і іх паважных твараў, што пытаючы аб голцы, яны ня зьдзекуюцца над ім і, ня ведаючы, што адказаць, пан Харашэўскі толькі кланяўся на ўсе бакі і дзякаваў за ўвагу, кажучы, што ўсё прайшло і што ўсё цяпер добра.

*) Гл. працяг у № 26.

ваньне. Спачывае яно ў тым, што сыры корм накладаецца ў кучы, ці ў ямы, дзе пачынаюцца гэтак званыя фэрмэнтацыйныя працэсы, і вытвараецца малочны квас, які забараняе разьвіцьцё іншых шкодных бактэрыяў, галоўным чынам гнілотных, якія выклікаюць гніцьцё. Так можна перахоўваць корм праз усю зіму аж да лета. Сілас трэба рабіць асабліва з такіх расьлін, якія цяжка высушыць (лубін, кукуруза, боб, гарох, грэчка), ці з такіх, якія ўвосень, калі ідуць увесь час дажджы, высушыць зусім немагчыма (картафлянік, бурачнік, зьмерзлая бульба). Сілас вельмі добры і смачны корм, і асабліва каровы вельмі добра яго ядуць зімою, калі няма зялёнае пашы.

Нават і такія расьліны, як картафлянік, ці лубін, які каровы неахвотна ядуць, прыгатаваны такім спосабам, робіцца для іх смачным і добрым кормам. Сілас таксама ўплывае і на дойнасьць каровы: каровы даюць тады больш малака і дзеля гэтага трэба даваць сілас перш за ўсё каровам. Да сіласу трэба усё-ж такі скаціну прывучаць паволі. Спачатку трэба даваць пакрысе, пасьля болей і болей, так што цераз якіх два тыдні можна даваць ужо на адну штуку 10—12 кілегр. (25 — 30 фунтаў). Такі спосаб кансэрваваньня корму распаўсюджаны па ўсім культурным сьвеце, асабліва ў Амэрыцы, дзе засяваюць вялікія палі кукурузаю і пасьля яе сырую рэжуць на вялікія кавалкі сячкарняю і кідаюць у вялікія ямы (найлепш круглыя) з цэмэнту ці з дзерава, якія могуць зьмясьціць некалькі вагонаў корму.

Корм у яме добра ўтоптваюць, каб не магло праходзіць туды паветра і зьверху накладаюць усякія амеці, пазадкі, сечку і г. д., а на іх гліну.

А ў малой гаспадарцы можна зрабіць сілас альбо ў ямах, выкапаных у зямлі, альбо ў стагох. У ямах рабіць сілас усё-ж такі лепш праз тое, што ў стагох траціцца каля $^1/_4$ часьці сіласу, які з вонкавага боку, стыкаючыся з паветрам, гніе і плясьнее. Яма робіцца глыбінёю ў 2—$2^1/_2$ мэтры (3—4 аршыны) і ўдоўжкі—залежна ад колькасьці пашы. Шырыня ямы не павінна быць большаю, як глыбіня яе, ўзятая два разы. Яму трэба капаць у месцы сухім, найлепш у гліне, якая не прапускае так лёгка вады. На спод і па баках кладуцца амеці, сечка і іншы недарагі корм, а пасьля слаямі корм. Калі ён вельмі даўгі, цяжка ўкладаецца і утоптваецца, тады трэба яго наўперад парэзаць на сячкарні на большыя кавалкі (кукуруза), пакінуўшы ў сячкарні адзін толькі нож, каб кавалкі былі даўжэйшыя. Корм накладаецца аж на адзін мэтр над ямаю ($1^1/_2$ аршына) і на верх даюцца ізноў амеці, сечка і інш., і прысыпаецца зямлёю. Пасьля, як сілас асядзе, могуць зрабіцца шчыліны, якія трэба заляпіць глінаю, каб не праходзіла да сіласу паветра.

Там, дзе зямля лёгка прапушчае ваду (пяшчаная), трэба спод вымураваць.

Праз 5—6 тыдняў сілас ужо гатовы і можна яго даваць скаціне. Набіраецца сілас лапатамі згары ўніз. Ніколі ня трэба толькі адразу набіраць сіласу больш, як на адзін дзень, бо на паветры ён хутка псуецца. Найлепш сілас перад тым, як даваць, мяшаць з сечкаю, ці з амецямі, і такім чынам можна адначасна скарміць і такі корм, які скаціна неахвотна спажывае. Калі на сілас быў ужыты бурачнік, то прапануецца прысыпаць крыху крэйды, бо бурачнік мае ў сабе шчавельны квас, і скаціна можа дастаць ганячку. Так сама трэба асьцерагацца даваць сілас гнілы, бо могуць зрабіцца колікі ці здунецца жывот.

Трэба зазначыць, што сіласаваньне ёсьць рэч у гаспадарцы надта карысная і ў культурнай гаспадарцы ў апошнія часы жывёла праз усю зіму корміцца, галоўным чынам, сіласам з саломаю і сена скора зусім ня бачыць у вочы

---

— Ну, пойдзем закусіць, — клікаў Тыднёнак свайго гасьця, а то спазьніўся, брат, цяпер наганяць трэба. Пан Харашэўскі рад быў пазбыцца пытальнікаў і, ўсеўшыся з Тыднёнкам за сталом, пасьля некалькіх чарак гарэлкі, зрабіў паважную міну і адазваўся да Тыднёнка некім глухім голасам:

— Пане Тыднёнак, прашу Вас быць маім сэкундантам.

Тыднёнак вытрашчыў вочы і маўчаў.

— Чаго просіш, чаго? каб сэкундантам быць?

— Але, — ледзь чутна прашаптаў, пан Харашэўскі.

— Здурнеў ты хіба, ці што? Якім сэкундантам? Давай вып'ем яшчэ.

— Так, сэкундантам, каб выклікаць на паядынак Гадаўскага.

— На паядынак? Гадаўскага? Да ты чалавеча зусім ачунеў. Чаго ты хочаш ад Гадаўскага?

— А за гэту голку! Я не магу так даравацъ, я мушу змыць ганьбу. Ён вам не расказаў, як мяне атуманіў? — і пан Харашэўскі пачаў перад Тыднёнкам сваю споведзь.

Тыднёнак слухаў, слухаў, ажно, зразумеўшы ў чым справа, калі ня фыркне сьмехам, ажно пан Харашэўскі пачырванеў і замяўся.

— Ха, ха, ха! — залівався Тыднёнак, вось дык штука! Дык ты за гэта на паядынак? А я табе скажу: калі хочаш яму ад'імсьціць, дык усадзі яму голку ў тое месца, па якім яго бацька біў, вось гэта дык будзе помста, а то паядынак! а як ён цябе заб'е?

Аж ускочыў з месца пан Харашэўскі, так яму спадабалася думка Тыднёнка.

„Так, так, вока за вока, зуб за зуб, голка за голку“, — насілася думка ў галаве пана Харашэўскага, і ён схапіў рукі Тыднёнка і дзякаваў яму, і цешыўся, як дзіця.

Выпіўшы добра і закусіўшы, ўжо спакойны пан Харашэўскі тут-жа, не чакаючы, рашыў выканаць свой плян. Ён яшчэ раз падзякаваў Тыднёнку і ўстаў ад стала. У гасьцінным пакоі ішлі тымчасам танцы поўным ходам. Разглядзеўшыся, што ніхто за ім ня сочыць, пан Харашэўскі шмыгнуў у кухню.

— Зося, ці ня маеш голкі, вось гузік вырваўся, трэба прышыць, — прасіў пан Харашэўскі ў кухаркі Тыднёнка.

— Чаму не, ёсьць голка, але дайце, я Вам прышыю.

— Ды не, ў такім месцы, ведаеш, што дзеўкам сорамна прышываць.

— Дык я-ж баба, панічу, мне ўсюды шыць можна, — зарагатала Зоська, даючы пану Харашэўскаму шарштатку.

Пан Харашэўскі ўзяў, даў Зосьцы залатоўку

і ўсё-ж такі, ня гледзячы на гэта, каровы даюць шмат малака і няма дзіва, што там трымаецца на 10 дзесяцінах зямлі 15 — 20 кароў, у той час, як пры нашых варунках больш, як 4 — 5, кароў трымаць зусім немагчыма. *П.*

## Гаспадарчыя парады.

### Што рабіць па гаспадарцы ў кастрычніку.

*Земляробства.* Малаціць збожжа. Мачыць лён і каноплі. Чысьціць, змазваць і хаваць на зіму сельск.-гаспадарчыя машыны і прылады. Глядзець, каб на полі па зімовым збожжы не застойвалася вада. Паляпшаць сенажаці: зьнішчаць купіны, баранаваць. Абсушваць балота. Капаць бульбу і турнэпс. Зьбіраць пасьцелены лён.

*Жывёлагадоўля.* Аглядзець хлявы. Паступова падрыхтоўваць скаціну да трыманьня ў хляве. Падлічваць кармы. Лягчаць жарэбчыкаў. Не выпушчаць цельных кароў на траву, пакрытую марозам, бо яны могуць зьвергнуць.

*Садоўніцтва.* Скончыць абмазваньне дрэў вапнаю. Налажыць лоўчыя перавяслы вышэй сьнегавой лініі. Абкруціць на зіму больш далікатныя дрэвы і кусты. Скончыць збор зімовых сартоў. У самым пачатку месяца садзіць і перасаджаць дрэвы. Захоўваць дрэвы ад зайцоў.

*Птушніцтва.* Адабраць птушак на выкарм. Адкормліваць найлепей у цёмных, цёплых памяшканьнях, даючы сьвет толькі ў часе кармленьня.

### Як трэба сушыць фрукты.

Кожны гаспадар, калі мае сад, або толькі некалькі садовых дрэваў, з надходам восені, мусіць падумаць і аб тым, каб не змарнаваўся ураджай з саду. Трэба ведаць тое, што калі хочам. каб фрукты праз зіму не папсаваліся, дык для іх трэба мець асобную будыніну, дзе трымаецца роўная тэмпэратура і да таго трэба дадаць старанны і часты перагляд кожнага яблычка (ігрушкі і сьлюкі доўга трымаць у сырым відзе ня можна), так што ў цяперашніх часох ня ў кожнага селяніна знойдзецца будыніна для гэтай мэты і можа не адзін гаспадар, ня маючы для фруктаў адпаведнага будынку, ўвосень прадае забясцэн увесь ураджай з свайго саду, або корме жывёлу, як пашаю.

Ці ня можна кожнаму ўзімку мець розных фруктаў, хоць ня сырых, а сушаных? Можна, але толькі трэба іх добра высушыць.

Для сушкі надаюцца ўсе гатункі фруктаў — цэлыя (ці калі вельмі вялікія, то парэзаныя наплову).

Ігрушкі цьвёрдыя, зялёныя, можна таксама сушыць, але перш чым сушыць, трэба апарыць кіпнем і паставіць у цёплым месцы, і калі яны прыбяруць цемнаватага колеру, то трэба выбраць на сітка, ад скуркі абабраць і, парэзаўшы папалам, сушыць.

Каб фрукты ў печы не ўкачаліся ў попеле, то да тэтага трэба ўжываць бляхі з захіленымі ўгару берагамі. На бляхі трэба тоненька пасьлаць кулявой саломы, а на салому пасыпаць тонкім слоем і роўна нарыхтованых да сушэньня фруктаў і тады ставіць бляхі ў печ.

Хай спрабуе, хто мае фрукты, а я пэўны буду, што ня будзе каяцца, і штовосень гэтак будзе рабіць. *Зыдар Зарак.*

### Як самому зрабіць хварбу.

Рана вясной зьбіраюць маладыя лісьці бярозы, кладуць іх у якую-небудзь пасудзіну і вывараюць з квасцамі.

Робіцца вельмі моцная жоўта-зялёная хварба, якой добра акрашваць розную тканіну.

---

і выйшаў. У калідорчыку ён дастаў з партманкі 3 капейкі, зьмяў кавалак хлеба, ўсадзіў у яго голку тупым канцом і разам з хлебам прымацаваў яе да 3 капеек.

Скончыўшы сваю работу, пан Харашэўскі ўсьмяхнуўся да сябе і, схаваўшы аружжа сваё помсты ў кішаню, увайшоў у гасьцінны пакой, шукаючы вачамі Гадаўскага. Скакалі кадрылю, і Гадаўскі разам з Антосяй быў у другой пары. Адскакаўшы сваю фігуру, пары сядалі на крэслы, чакаючы новай каманды дырыжэра. Пан Харашэўскі праціснуўся аж да крэслаў, дзе сядзелі Гадаўскі з Антосяй, і стаў з-заду.

— Трэцьця фігура — дамы пачынаюць, — камандаваў Пузыркевіч. Усе падняліся і пачалася трэцьця фігура кадрылі.

— Цяпер, альбо ніколі, — шапнуў сабе пан Харашэўскі і, разглядзеўшыся навакол, асьцярожна выцягнуў з кішані сваю машыну, палажыў яе на крэсла, дзе сядзеў Гадаўскі, так, што голка вострым сваім канцом, быццам джалам зьмяі, выглядала ўгару, упёршыся зысподу на тры капейкі— і ціха адышоў на бок, чакаючы, калі скончыцца фігура, і Гадаўскі сядзе на сваё крэсла. А ў пакоі тымчасам кіпела, як у катле. Танцоры, абхапіўшы сваіх дамаў, насіліся ў віхрыстай крупёлцы, ажно па камандзе Пазуркевіча „аво пляс“ кінуліся парамі на свае месцы. У пана Харашэўскага замёрла сэрца. Ён бачыў, як разам з іншымі круціцца Гадаўскі з Антосяй, бачыў, як яны цяпер, пасьля каманды, ў страшэннай куцёлцы кіруюцца на свае месцы, ужо блізка каля сваіх крэслаў, Гадаўскі закруціў апошні раз Антосяй, садзіць яе на крэсла, але з разгону абмыліўся, і Антося з размаху сядае на крэсла... Гадаўскага.

Пацямнела ў вачох пана Харашэўскага, ён кінуўся з пакою ў кухню, але ў дзьверах дагнаў яго страшэнны крык Антосі, музыка змоўкла і ў хаце загудзела, як у вульлі.

— Хомка! хутчэй каня! — крыкнуў, убегшы ў кухню, пан Харашэўскі.

Адтуль кінуўся ён у пярэднюю, схапіў свой кажух і, праклінаючы сваю злую долю, выбег з хаты.

Гэтак скончылася помста Харашэўскага.

Набрахала варажыха! ніякая сьмерць тады не пагражала пану Харашэўскаму і жывець ён у добрым здароўі і дагэтуль, ажаніўся, праўда, з Анютай, а не з Антосяй, якая, пасьля гэнай голкі, не хацела нават аб ім і слухаць і зьненавідзела пана Харашэўскага гэтак сама, як пан Харашэўскі зьненавідзеў з таго часу варажыхі і голкі.

(*Канец*).

**Шастун.**

Высушаныя лісьці лазы і маладыя пучкі і галінкі тапалёў таксама даюць моцную хварбу.

Добрую, жоўтую хварбу дае і жымаласьць (бружмель). Толькі трэба нарваць лісьцяў да красаваньня і выварыць іх. Дубовая кара акрашвае тканіну ў шэра-бураваты колер.

Каб зрабіць такую хварбу, кару наліваюць вадой і добра распарваюць у печы ў зачыненай пасудзе.

Пасьля распарваньня прыбаўляюць жалезнага купарвасу (яго можна купіць у аптэцы) і працэджваюць.

### Хатні спосаб дзёгцякурэньня.

Лепшая бярозавая кара для дзёгцякурэньня будзе на вышыні 2 саж. ад зямлі; тут яна больш роўная і дае больш дзёгцю. Лепшая дзягцярная кара будзе з тых дрэў, якія растуць на сухой глебе. Для дзёгцякурэньня бяруць два аднолькавыя гаршкі. Адзін з іх ставяць у яму, якая робіцца ў зямлі, прычым трэба рабіць так, каб край гаршка быў роўны з зямлёй. На гэты гаршчок кладуць другі, уверх дном, і ў гэты гаршчок, які ставіцца ўверх дном, набіваюць поўна бярозавай кары і прыкрываюць жалезным кругам, па разьмеры такім, каб ён якраз прыкрываў другі гаршчок. У сярэдзіне гэтага круга робіцца дзірачка для сьцёку дзёгцю. Калі гаршкі добра пастаўлены, то шчыліну паміж імі замазваюць глінай і прысыпаюць пяском. На верхні гаршчок асьцярожна кладуць дровы і разводзяць агонь. Ад вялікага жару гоніцца дзёгаць і цячэ ў ніжні гаршчок. Праз $1^1/_2$ альбо 2 гадзіны ўся кара стлее і дзёгаць будзе ў ніжнім гаршку. Прыблізна з 5-6 фунтаў кары атрымоўваецца адзін фунт дзёгцю.

### Чаму селянін мае ад птушніцтва малы даход?

Сяляне атрымліваюць мала даходу ад птушкі таму, што: 1) птушка і яйкі дробныя, малакаштоўныя і 2) таму, што прадаюць іх цераз 2-3 перакупшчыкаў, якія ўсе нажываюцца, а селянін — уласьнік птушкі — мае страту.

Добрыя цэны плацяць за добры тавар, а для гэтага трэба паляпшаць птушку, ўмець захоўваць яйкі і прадаваць іх без перакупшчыкаў.

Сялянам можна наладзіць продаж яек проста ў вялікія гарады, для гэтага трэба злучацца ў суполкі, тады ўвесь прыбытак астаецца ў адных руках — у самых гаспадароў.

Суполкі могуць быць наладжаны і для супольнага выкарму птушак.

### Капыты коням трэба шмараваць.

Некаторыя коні маюць крохкія капыты. Гэткія капыты трэба даглядаць, бо яны часта лопаюць і вартасьць каня абніжаецца, а то часам конь і зусім робіцца няздольным да работы.

Каб хоць часьцёва папярэдзіць гэную загану, капыты шмаруюць рознымі клустасьцямі. Але ня кожнай клустасьцю можна шмараваць, бо некаторыя клустасьці могуць зрабіць яшчэ горш, бо не дапусьцяць да капыта вільгаці, і яно яшчэ больш ссохнецца. Найлепшая клустасьць, што падходзіць для капыта, гэта — лянолін, які можна дастаць у кожнай аптэцы. Бо практыка паказала, што як з месяц пашмараваць капыты лянолінам, дык капыта робіцца цьвярдзейшым, ня гэткім крохкім.

Шмараваць лянолінам трэба гэтак: перш за ўсё капыта трэба з усіх бакоў добра абмыць і насуха выцерці чыстаю ганучкаю. Лянолін набіраем на кавалачак сукна або нават і вайлака і ўціраем яго ў сьценкі капыта, а таксама ў падэшву і стрэлку. Гэтак трэба рабіць штодня ў працягу 1 — $1^1/_2$ месяца. Капыта зусім паправіцца і будзе мець звычайны глянец.

Пасьля некалькіх месяцаў, уціраньне трэба ізноў паўтарыць.

Трэба толькі сьцерагчыся пры шмараваньні, каб лянолін не трапляў на каронку, якая знаходзіцца зьверху капыта ў выглядзе абадку, бо на гэты абадок могуць хутчэй трапіць бактэрыі якой-небудзь заразы.

### Як зьмякчыць жорсткі рамень.

Трэба добра намыліць рамень і працёрці шчоткай з цеплаватай вадой. Пасьля трэба ачысьціць прыстаўшую гразь тупым нажом і павесіць для прасушкі ў цёплым, але ня вельмі гарачым, месцы.

### Як ачысьціць рамень ад масла.

Трэба палажыць рамень у газу, альбо ў нафту на адну гадзіну, пасьля абмыць яго і, урэшце, высушыць.

# Корэспондэнцыі.

## Голас чытача.

### „Правільны шлях."

Сусьветная вайна і яе вынікі цяжка адбіліся на жыцьці нашага народу. Гэта скарысталі людзі рознае палітычнае ахварбоўкі, якія за апошнія паўтара-два гады ўнясьлі гэтульк і блутаніны і бруду ў нашае жыцьцё, што народ і сам ня ведаў, за кім і куды яму ісьці. Кожны толькі хваліў сваё, а ганіў чужое, адным словам, як у краме. Здавалася, што і канца ня будзе. Але ўсяму бывае і ёсьць канец. Мусіць быць канец і блутаніне ў жыцьці нашага народу, які апынуўся ў межах Польшчы. Гэты канец толькі і можа палажыць наша шчырая орыентацыя на Захад. Бо калі пачнём сачыць жыцьцё нашага народу ад першых дзён яго істнаваньня, дык гэтае жыцьцё неразрыўна зьвязана з жыцьцём Захаду, асабліва з Польшчай, на ўсіх шляхох, як гістарычных, палітычных, эканамічных, культурных і г. д. Па ўсіх гэтых шляхох наш народ ідзе поплеч з братнім польскім народам, ідзе поплеч праз працяг вякоў, пачынаючы ад бітвы пад Грюнвальдам і канчаючы падзеямі апошніх гадоў. І гэтая супольнасьць інтарэсаў двух славянскіх народаў і цяперака ні на час не аслабявае. Польскі народ, будуючы сваю дзяржаўнасьць, не павінен забыцца на свой братні народ і ў межах свае дзяржаўнасьці бяз сумліву зразумее патрэбы нашага жыцьця і будзе для нас архітэктарам нашае лепшае, сьветлае будучыны. Мусім мець толькі трохі цярпеньня, веры і надзеі.

Мо' хто і зьдзівіцца, чытаючы гэтыя словы, якія выходзяць з-пад пяра быўшага грамадзістага. Мо' хто ўбачыць у гэтым нейкія асабістыя справы і інтарэсы. Але трэба памятаць, у якой блутаніне, паднятай рознымі дэмагогамі, апыну-

ліся людзі і добрай волі, а нішто так не адчыняе вачэй на сапраўдны стан рэчаў, як гэтакая блутаніна. I павінны мы прызнаца, што шлях, на які ўзышлі аднадумцы „Бел. Дня“, ёсьць адзіным выхадам з усяе блутаніны. На гэты шлях павінен узыйсьці кожны больш-менш сьвядомы беларус, жывучы ў межах Польшчы, кожны павінен праз праўдзівыя акуляры дагледзіць і пазнаць, што толькі праз добрасуседтва, супрацоўніцтва, цесную сувязь з Польшчай мы палепшым сваё жыцьцё і будучыну. Мо' цяжка нам, пакуль што, але мусім памятаць, што і на ўсім сьвеце цяперака ня соладка. Ад нас-жа саміх залежыць аблягчыць сваё жыцьцё, ідучы тым шляхам, які няраз абгаварваўся на шпальтах „Бел. Дня“.

Дык, браты-беларусы, як шчыры беларус, заклікаю ўсіх сыноў нашага народу да дружнае, бадзёрнае, карыснае, лёяльнае працы, над адбудовай свайго дабрабыту, ідучы поплеч па гэтым адзіным правільным шляху. Будзем дзяліцца супольнай радасьцяй і гараваць супольнае гора,— тады нам ня будзе страшна ніякая блутаніна. Няхай „Бел. Дзень“ будзе той зоркай, якая павядзе нас дарогай простай і добрай. А што гэтая дарога ёсьць добрай і простай, дык у гэтым няма сумліву. Толькі больш развагі, а кожны з нас пераканаецца.

Дык усе дружна на сьветлы і правільны шлях!

Бышы грамадзісты **М. Н.**

## Выбары.

*Празароцкая вол. Дзісьнен. пав.*

Я доўга ня пісаў аб выніках выбараў у Валасную Раду ў Празароках, бо чакаў, як і ўсе сяляне нашае воласьці, што будуць перавыбары, дзеля таго, што выбары ў Валасную Раду, якія адбываліся 12.VI., адбываліся нязгодна з выбарным законам.

Трэба ведаць, што, „Urząd Gminny“ нашае воласьці перапоўнены асаднікамі і рознакалібровай шляхтай і панкамі, якія, баючыся ўтраціць лёгкі хлеб, найбольш сьвядомых сялян ня ўпісалі ў сьпіскі выбаршчыкаў. Вёскі Чашкі і Целяшы, бачачы гэтакае бясправ'е, у знак пратэсту, устрымаліся ад выбараў, бо напрыклад, у в. Целяшох, замест 27 выбаршчыкаў, было ўпісана толькі 3. У іншых вёсках было ня лепш, а дзеля гэтага з усяе Празароцкае валасьці на другі дзень пасыпаліся паданьні на імя старасты Дзісьненскага павету ў м. Глыбокім, аб уневажненьні выбараў. Падалі паданьні і, верачы ў справядлівасьць вышэйшай улады, цярпліва чакалі перавыбараў. Але дарма чакалі. 26 чэрвеня адбыліся аканчальныя выбары ў Валасную Раду. Дзякуючы таму, што ўпісаны былі толькі найменш сьвядомыя сяляне, паміж якіх нават было шмат такіх, якія за адно ласкавае панскае слова гатовы здрадзіць найдаражэйшыя свае сялянскія справы, а блізка 50% агульнага ліку выбаршчыкаў бяз ніякае падставы былі пазбаўлены права выбараў і гэта была тая частка сьведамых сялян, якая-б здолела пацягнуць за сабой усіх іншых, дык у валасную раду ўвайшло толькі 6 сьвядомых беларусаў. Апроч іх увайшло яшчэ 3 асаднікі, 2 паўпанкі і 4 несьвядомыя беларусы, якіх можна папіхаць, куды хочаш. Дзеля ўсяго вышэй сказанага мы ад нововыбранай рады нічога лепшага не спадзяваемся, як і не спадзяваемся болей, што павятовы Староста возьме пад увагу нашу заяву аб няправільнасьці праведзеных выбараў.

*Ш. Родны.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Дэклярацыя пасла Юрага Сабалеўскага.

Пасол Ю. Сабалеўскі, які перад некалькімі днямі ўступіў у Беларускі Пасольскі Клюб, раней выступіўшы з Пасольскага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, выдаў камунікат, у якім выложыў мотывы свайго выступленьня з Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Дэклярацыя яго гэткая:

1. Далейшая акцыя Грамады наагул, а асобна і мая ў ёй будзе прычынай укіданьня ў польскія вастрогі лепшых беларускіх сіл. Я, будучы сынам Беларускага Народу і з цэлай душы жадаючы палягчыць цяжкай яго долі, жадаю лепш сам цярпець у вастрозе, чымся прычыняцца да запаўняньня вастрогаў беларускімі сялянамі, і праз гэта да зьністажэньня сем'яў, што асталіся на волі.

2. Беларуская Грамада вяла сваю працу пераважна ў кірунку ўсьведамляньня беларускіх гушчаў з палітычнага пункту гледжаньня, затое вельмі мала зварочвала ўвагі на рэчы важнейшыя для беларускай вёскі: на нацыянальнае усьведамленьне, на культурна-асьветную працу і на паляпшаньне гаспадарчага палажэньня Беларускага Народу.

3. Дасьледы мае на ніве арганізацыі вясковых гаспадарак, чэрпаныя з крытэрыяў культуры Захаду, а набытыя 20-летняй маей працай сярод Немцаў, Літвіноў, Латышоў — вучаць мяне, што шмат недамаганьняў у агульным жыцьці Беларускага Народу можна адсунуць праз прытарнаваньне вышэйшай культуры ў гаспадарчым жыцьці гэтага Народу. Для зьдзейсьненьня затым гэтае мэты і намерваюся прысьвяціць далейшую сваю працу. Але дзеля таго, што гаспадарчае жыцьцё ёсьць рэзультатам усіх формаў палітычнага жыцьця народу, буду імкнуцца да ўспомненай мэты праз кансалідацыю гэтых беларускіх сіл дэмакратычных, якія шчыра працуюць над поўным вызваленьнем Беларускага Народу, як з пункту гледжаньня гаспадарчага, культуральнага, так і палітычнага.

### Зьезд Сялянскага Саюзу № 2.

18 верасьня г. г. адбыўся зьезд дэлегатаў „Беларускага Сялянскага Саюзу“ скліканы Часовым Камітэтам з др. Янкай Станкевічам на чале. Мэтай зьезду было выясьненьне адносін у Беларускім Сялянскім Саюзе па поваду расколу, які меў месца вясной гэтага году.

На зьездзе было прысутных 53 дэлегаты, з гэтага ліку 4 з м. Вільні. Зьезд пацьвярдзіў пастанову Часовага Камітэту аб выключэньні паслоў Ярэміча, Рагулі і грам. Більдзюкевіча з Сялянскага Саюзу. Да Рады Саюзу выбраны на сяброў: 1. Лук'яновіч, 2. Галяс М., 3. Буткевіч С., 4. Езерскі Б., 5. Федаровіч, 6. Лішчынскі, 7. Пятроўскі М. 8. Гіль Я. На заступнікаў: Сухалет і Кавалеўскі. Да Камітэту выбраны: 1. Мурашка—старшыня, 2. Станкевіч Я. 3. Шавялякка, як сябры. На зас-

ступнікаў: 1. Бэкіш Я. і 2. Гічан В. Прыняты назоў „Беларуская Сялянская Партыя“.

„Сялянская Ніва“ піша, што зьезд склікаў Луцкевіч і бачыць у ём усходнюю работу, а Паўлюкевіч ізноў хоча бачыць тут польскую дапамогу. Калі пачаць шукаць, дык заўсёды штосьці знайдзеш.

### Новы Беларускі Банк.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры заснаваў Коопэратыўны Зямляробска-Прамысловы Банк. Мэтай Банку будзе эканамічная дапамога беларускаму сялянству.

## Апошнія навіны.

**Польшча.** Савецкім паслом у Польшчы, на месца забітага Войкова, назначаны Багамолаў. Багамолаў перад гэтым служыў у савецкім пасольстве ў Вене і Лёндане.

**С. С. С. Р.** Барацьба паміж опозыцыяй і цэнтральным камітэтам камуністычнае партыі ня спынілася. Нядаўна ў Іркуцкім раёне выключана з партыі 8 сяброў опозыцыі. Выключаным опозыцыянэрам закідалі фракцыйную работу і прадажу тайных дакумэнтаў (каму?). Адначасна і ў Маскоўскім раёне выключана з партыі 5 сяброў опозыцыі. Як відаць, няма мовы аб згодзе ў кампартыі.

**Францыя.** Вялікае ўзбурэньне ў Францыі, як і наагул у саюзных і іншых дзяржавах, выклікала прамова нямецкага прэзыдэнта Гіндэнбурга, сказаная з прычыны пасьвячэньня памятніка для жаўнераў, загінуўшых у Ўсходняй Прусіі пад Танэнбэргам. Мова тут аб разьбіцьці расейскай арміі гэнэрала Самсонава ў Мазурскіх вазёрах, дзякуючы здрадзе гэнэрала Рэнэнкампфа. Кайзэр Вільгэльм прыслаў Гіндэнбургу тэлеграму, ў якой дзякуе бышаму свайму галоўнакамандуючаму за добра праведзеную ваенную апэрацыю. Прэзыдэнт Гіндэнбург адказаў тэлеграмай Вільгэльму. Зьмест гэтай тэлеграмы невядомы. Ў сваёй прамове Гіндэнбург хваліў гэройства нямецкага войска і стараўся скінуць адказнасьць за вайну з Нямеччыны. Гэтая прамова выклікала благое ўражаньне ў Лізе Народаў. Нарады, якія меў адбыць францускі міністар загранічных справаў Брыян з нямецкім міністрам Штрэзэманам не адбыліся з гэтага поваду. Францускі мін. справядлівасьці Барту і прэзыдэнт міністраў Пуанкарэ адказалі Гіндэнбургу. Міністр Барту сказаў, што „існуюць такія запярэчаньні, каторых гісторыя ня прызнае, скуль-бы яны не паходзілі, бо яны працівяцца ўласьцівасьцям фактаў, дакумэнтаў і датаў“. Далей кажа, што адказнасьць за выкліканьне вайны спадае вылучна на Нямеччыну.

Як бачым, выступленьне Гіндэнбурга ня толькі не прынясло ніякай карысьці, а наадварот утрудніла толькі асягненьне паразуменьня між Нямеччынай і іншымі дзяржавамі, асабліва Францыяй.

**Нямеччына.** Гэтымі днямі ў Нямеччыне мела месца страшэнная катастрофа. Аэраплян, на якім знаходзілася 4 пасажыры, між якімі быў нямецкі амбасадар у Амэрыцы барон Мальтцан, упаў. Лятун і ўсе пасажыры панясьлі сьмерць на месцы. Барон Мальтцан быў знаным нямецкім даплёматам. Ён быў адным з тварцоў нямецка-савецкага дагавору 1922 г. ў Рапальлё.

**Румынія.** У Румыніі шырыцца хвароба „Hrine-Medin.“ Хварэюць на яе дзеці, здараецца, што і старэйшыя. Хвароба вельмі небясьпечная, бо ў сваіх рэзультатах яна выклікае агульны параліж, і чалавек робіцца бязуладнай масай цела. У Польшчы прыняты ўсе меры асьцярожнасьці, каб эпідэміі гэтай хваробы не зацягнуць у Польшчу.

**Крым.** Крым наведала землятрасеньне. Найбольш пацярпелі месты Севастопаль і Ялта. Ёсьць ахвяры ў людзях.

**Чэхаславакія.** У Празе адбыліся фашыстоўскія дэмонстрацыі. Дэмонстрантаў разагнала паліцыя; на чале чэскіх фашыстых стаіць вядомы гэн. Гайда, якога звольнілі з войска, бо знайдзены дакумэнты, што ён быў у зносінах з бальшавікамі.

**Кітай.** Хатняя вайна ў Кітаі прыціхла, хоць ня спынілася. Войскі Чанг-Со-Ліна мелі рад пасьпехаў. Вядуцца перагаворы, каб давясьці да аб'яднаньня ўрадаў у Ханькоу і Нанкіне, і такім спосабам узнавіць і ўзмацніць барацьбу з Чанг-Со-Лінам.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Я. Тарыкаў.** Просьбу выпаўнім. Слоўнік расейска-беларускі вышлем.

**Я. Курац.** Вершы слабыя, да друку не падыйдуць. Прабуйце пісаць прозай, большая будзе карысьць.

**Х. Ліхалеўскі.** Выехаць за граніцу цяпер вельмі трудна. Эміграцыя ў Амэрыку вельмі цяжкая. Найлягчэй выехаць у Францыю на работу, але варункі істнаваньня і працы там вельмі благія.

**П. Аляксейчык.** У справе п'есаў зьвярнецеся ў Беларускую Кнігарню, адрэс: Вільня, ul. Zawalna 7, Białoruska Księgarnia. Там дастанеце каталёг кніжак. Адносна пераходу на хутары дамо параду пісьмом.



Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.